# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ

№110

ЧЭРВЕНЬ 2008

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК

В. ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ ЧЭРНІНСКАЯ ВОЛАСЬЦЬ

## ТАК СЬПЯШАЛІСЯ, ТАК ХАПАЛІСЯ...

Палата Прадстаўнікоў, вядомая сваёй экстравагантнай здольнасцю прымаць законы без дыскусій і абмеркаванняў пад канец сваёй апошняй разбойнай сесіі прымала «Закон аб друку». Ну, пагарталі «прадстаўнікі» закон, папазяхалі і тут жа прынялі яго ў першым чытанні. Адзін мой знаёмы, прачуўшы пра якасьці і ўласьцівасьці таго закону вырашыў напісаць свой пратэст. Ён яго напісаў і паслаў у Палату, але марна. Пакуль ліст ішоў у сталіцу, «прадстаўнікі» борзьдзенька сабраліся і прынялі закон у другім чытанні. (Другое чытанне і галасаванне робіцца пасьля ўнесеных дапаўненняў і змен.) Мой знаёмы зьдзівіўся прадстаўнічай увішнасьці і спрыту, але ведаючы, што закон перададуць у другую палату, і яна ж будзе таксама разглядаць закон, шпаркенька напісаў ліст і да «сенатараў».

Вы думаеце, ён пасьпеў з лістом? Трасцы! Пакуль Белпошта везла ягоны другі ліст у сталіцу, сенатары ізноў выперадзілі яго і прынялі ўвесь закон.

Знаёмы мой не надта зажурыўся, бо не дужа спадзяваўся, што ягоны ліст возьмуць пад увагу. Зьдзівіла яго толькі тое, з якой жульніцкай хуткасьцю «народныя» прадстаўнікі ухіляюцца ад народу. «Па-сутнасьці, «слугі» народу сапраўдныя шэльмы», - перакананы мой знаёмы. «Усе законы прымаюць амаль без дыскусій, хуценька, каб той з народу, хто трохі разьбіраецца, не здолеў выказаць свой пратэст.»

Пакуль дыктатар крычыць пра апазіцыю, што яна «ірвецца да ўлады» сама ўлада дзейнічае нахабна і па-зладзейску.

Хіба ж не так робіць які-небудзь валасны старшыня з Кабульшчыны, калі перад выбарамі прылятае ў якую-небудзь школу і нікому нічога не кажучы на вялікім перапынку зганяюць настаўнікаў і тэхнічак на сход, дзе, аказваецца, трэба тэрмінова выбраць патрэбнага чалавека ў выбарчую камісію. І вось такую важную справу вырашаюць бягом цягам 10 хвілін. Ніхто не пасьпявае зразумець, што адбываецца, а патрэбная ляля ўжэ абраная.

Паскудства гэта, а не палітыка.

## ХЛУСЬНЯ і ХАМСТВА

Частка народу мае нядоўгую памяць. Гэта тлумачыцца вялікай колькасьцю спажыванага пойла з манаполек і малой аператыўнай памяццю мозга.

Перад выбарамі ўлада заўсёды цьвёрда абяцае народу падвышку заробкаў. Але назаўтра калі што і падвышаецца, то толькі цэны.

Асабліва гэта адчуваюць нізкааплатныя работнікі розных камунальных службаў.

Не раз яны жаліліся, што ім зрэзалі разрады, што змушаюць рабіць староннюю працу, што начальства, асабліва з Шацілак, грубае і хамскае.І што іх ужо амаль не дзівіць, то хамствам вызначаюцца найбольш жанчыны.

А працоўныя- простыя гароўныя хлопцы, што патрапілі пад прэсінг жыццёвай нявыкруткі.

Можна сказаць адно: камуністычнае хамства пасьпешліва засвойвае новыя капіталістычныя хамскія прыёмы прыгону працоўных.

Але хамы тутэйшай гадоўлі спазьніліся на сто гадоў.

Працоўныя таксама. Трэба і ім дбаць пра свой працоўны гонар, ствараць свае арганізацыі. Хамства баіцца арганізаванага адпору.

**ПРАЦОЎНЫЯ ВЁСКІ І ГОРАДУ!**

**Вывучайце гісторыю і досьвед еўрапейскіх прафсаюзаў! Стварайце самаасьветныя гурткі, вучыцеся яднацца, каб адстойваць толькі гуртам свае эканамічныя правы!**

## ТАЛІБАНЫ Ў ДУБРОВЕ.

Дваццаць два гады - з лета 1986 году- прастаяў у Дуброве пастаўлены пад час чарнобыльскай гарачкі вялікі двухпавярховы будынак крамы Заставалася толькі зладзіць аддзелачныя работы. Але зь нейкай прычыны будоўлю не давялі да канца і застаўся будынак безнаглядным. Сьпярша дзеці гулялі там у вайну, потым зьніклі рамы, сёетое з труб павырывалі, на даху пачаў расьці бярэзьнік і вось прысуд камісіі: будынак ненадзейны, трэба руйнаваць. Ненадзейнай аказалася капітальная цагляная сьцяна, падточаная амаль за чвэрць стагоддзя дажджамі і падмурак.

Трэба зазначыць, што крама тырчала навідавоку і тысяча начальнікаў, што за гэтыя 22 гады швэндаліся і нікалі па Дуброве не маглі не бачыць сьлядоў варварства і вандалізму. Але чамусьці яны пазіралі на гэта -як кажуць англічане- «сьляпым вокам».

Шацілкаўскія начальнікі- гэта частка апарату акупантаў, яны неўкаранёныя ў гэтай зямлі, ім яна нялюбая і варварская.

Яны на гэта- як той вертыкальны ідэолаг, некі Мяркулаў- наўпрост намякаюць, што тутэйшыя людзі вінаватыя ў вандалізме.

Чалавек усюды разбуральная істота. Нават у высокацывілізаваных краях.

Але ў дуброўскім вандалізме вінаватая найперш начальства, бо давяло да гэтага справу.

Калі б будынак функцыянаваў як крама, то прастаяў бы гадоў сто сама меней.

Дык далей. Паколькі ў Дуброве ладзіцьмуць нейкі ўрэзаны варыянт аграмястэчка, то няўдалую краму рашылі прыбраць

Знайшлі, кажуць, 60.000.000 рублёў, сабралі камунальнікаў і пачалі прыборку.

На чарзе, як мяркуюць, будынак далей.

Есьць у Дуброве будынак старой крамы, якому мо гадоў 55. У гады сваёй маладосьці ён меў шыльду «СЕЛЬПО».

Дык гэтага старога рамантуюць, ладзяць страху і, кажуць, будзе ў ім залезны магазін. От якая супярэчлівая дзейнасьць у Дуброве.

Але шкада і будынка няўдалай крамы і змантачаных грошай. Мы прывыклі да той стаячай руіны.

Акрамя таго, ў Дуброве таксама мо гадоў з дваццаць стаяць недабудаваныя два шасьцікватэрныя панельныя дамы.

А вы кажаце жытла німа.

Праверце авальнасьць сваіх яйцаў, панове!

## НОВЫ ПЛОТ.

Бетонную агароджу вакол могілак ладзяць у Дуброве. Гэта добра і надае прыстойны выгляд сьвятому месцу.

Працоўная сіла каштуе нядорага- усяго 230.000 рублёў атрымаюць работнікі.

Хлопцы думаюць, што іх абдуруюць, бо дамова на працу была зроблена вусна, аніякага каштарысу яны не бачылі.

Але як бы тое ні было, на наступную Радаўніцу многія наведнікі будуць прыемна ўражаны.

Дарэчы, адначасна з гэтым дарожнікі робяць рамонт шашы.

Што ні кажы, каб былі мы ў савецкай імперыі, то наўрад ці пабачылі б столькі будаўнічай касьметыкі.

А калі б у нас была шчэ й эканамічная свабода.....

## УРАДЖАЙНЫ ЧЭРВЕНЬ.

Хоць мы й баяліся гарачага лета, але, як аказалася, дарма. Дажджы ішлі даволі рэгулярна і лес шчодра нарасьціў лісіц і ягад. За некалькі гадзін можна назьбіраць на пару дзесяткаў тысяч рублёў.

Тыя з дуброўцаў, што незаняты на будоўлі недакамунізму, спраўным гуртамі рушылі на збор дзікарослых.

Ягодніц у лесе было як колісь парафіян на дуброўскім царкоўным сьвяце.Цэлымі трактарнымі прычэпамі высаджвалі дэсант гэтай саранчы ў лесе. Саранча была аснашчана чарпакамі-грабянцамі. Пасьля леташняга іхняга чарпання ягоднік сёлета стаяў голы, як бізун, без лісьця. Сапраўдныя ягодніцы, што дбаюць і пра ўраджай налета, былі вельмі абураныя такім спажывецкім драпежніцкім стаўленнем да прыроды.

Багата нарасло і травы. Раней існавала нават канкурэнцыя за лепшыя латкі для кошлі. А сёлета ніхто й сянінкі лішняй не кашануў, прапалі касцы. Хіба мо нястомны Друзік Міхайла тупаў з касою.

Дарэчы, цяперака страчана манера нашэння касы: яе носяць у руцэ, як рыдлёўку.

Таму малыя, не бачачы традыцыйнай манеры, не здолеюць правільна ўцяміць сэнс казкі пра пеўніка: «Нясу касу на плячы, хачу ліску засячы».

Калхозныя каровы пазалівалі арцель малаком. Калгасны «цэнтравываз» Віктар Клімовіч не спраўляецца развозіць малако то ў Рудобелку за 50 км на тамтэйшы завод, то ў Мядкоў на тутэйшы. Працуе ўдарна, як і належыць «цэнтравывазу».

Неблагі сёлетні чэрвень у Дуброві. .

## КАРДЫНАЛАЎ ВІЗІТ

У праваслаўных папоў ёсьць падставы для непакою і трывогі. Да нас у Беларусь прыязджаў прадстаўнік дзяржавы Ватыкану і папы рымскага, нейкі важны кардынал. Кардынал меў перамовы з важнымі чыноўнікамі, з галавой дзяржавы, з мітрапалітам Філарэтам. Сустракаўся зь вернікамі каталікамі, адчыніў іхнюю каталіцкую папоўскую семінарыю. Словам, візіт быў плённы і выніковы.

Нават вымалявалася перспектыва візіту найсьвяцейшага папы рымскага Бенедзікта Шаснаццатага - ого колькі ў іх бенедзіктаў!- (бенедзікт азначае «бласлаўлёны») у Беларусь. Хай чалавек прыязджае. Папа Рымскі, дарэчы, немец, чалавек адукаваны, разумны, але цяжка яму. ў гэтым разбэшчаным і распусным сьвеце.

Тут, у Беларусі, праваслаўе захрасла ў гандлі гарэлкай, цыгарэтамі, даўно павязана маскоўскай дзяржавай і апрычнікамі-кагэбістамі, раструшчана сатаністамі-бальшавікамі, у масавым ужытку набыло характар неапаганства.

Праваслаўная царква пагадзілася з таталітарным савецкім рэжымам. Такое здаралася не толькі ў нас, у няшчаснай Беларусі.

У найсьвяцейшага айца з Ватыканскага пагорку

,

не менш непрыемныя праблемы. Садомскі грэх апанаваў частку сьвятароў. Рэч у тым, каталіцкае сьвятарства зьвязана правілам цэлібату, не можа жаніцца.

Шырыцца рух за допуск жанчын да сьвятарскага сану. Словам, д"ябал з шайтанам робяць сваю паганую справу. Папа як можа вукручуецца, просіць прабачэння за вубрыкі ксяндзоў- садамітаў. Нялёгка яму. Але паколькі вернікі-каталікі больш актыўныя за праваслаўных, актывістаў у яго болей. Прыезд папы- гэта ўсюды і заўсёды трошкі сьвята і шоў. Хай прыязджае папа да нас.

Адрозна ад маскалёў ён не прывязе непатрэбных нам ракет, бомб, а толькі трохі «опіуму» для народа.

Але гэтага дабра з беларускага тэлебачання ў нас і без яго хапае.

## ПЕРАМОГА РОЗУМУ НАД САРСАПАРЫЛАМ.

Лабавым сутыкненнем цывілізацый можна было лічыць гульню футбольных каманд Расеі і Іспаніі. Маскалі так ганарыліся, так хварсілі. Але не на тых напалі. Іспанцы, сапраўдныя майстры свайго рамяства, начыста абыгралі маскалёў.

Розум, хоць і нажны, перамог. Багата беларусаў, па старой памяці, а часьцей без яе наогул перажывалі за маскалёў.

От так усё жыццё- перажываюць за чужое, за сваіх каланізатараў, векавечных ворагаў.

Німа панятку, што за сваіх прыгнятальнікаў сорам і грэх перажываць.Маліцца за іх можна, але лепей нават гэтага не рабіць.

Маліцеся за перамогу Беларусі, за даравання большага розуму Лукашэнку, каб ён прыехаў з папам рымскім да нас у Дуброву. А то знайшлі ідала: Расею!

## ГАЛАЎНЫ БОЛЬ ІСПАНСКІХ ШАВІНІСТАЎ.

Усе ведаюць, што ў Іспаніі жывуць іспанцы. А ў Белгіі-белгійцы. Насамрэч, абедзьве гэтыя краіны шматнацыянальныя. У Іспаніі жывуць баскі, каталанцы, галісійцы і касьцільцы.

Адрозна ад беларусаў гэтыя народы моцна шануюць сваю родную мову. У Каталуны наогул, каталанская мова абвешчана галоўнай мовай і па-іспанску амаль няма надпісаў і шыльд. А нядаўна на Балеарскіх астравах вырашылі, што на міжнародных авіярэйсах будуць карыстацца толькі каталанскай мовай. «Які жах!»- усклікнуў паведамляючы пра гэта дыктар радыё. «Як жа так.- уводзіць ва ўжытак мову меншасьці». Гэтаму чалавеку дзіўна, што можна карыстацца сваё мовай а не іспанскай.

Гэта ў Іспаніі каталанская мова ў меншасьці, а на Балеарах яна ў большасьці.І вельмі справядліва і шляхетна зрабілі ўлады Балеарскіх астравоў.

А што Мадрыд? Парыпеў зубамі і змоўчаў. Бо непрыстойна ў Еўропе душыць мову народа.

У Белгіі нават дайшло да таго што французы і галандцы/ фламандцы ледзь не развалілі каралеўства па моўнай прыкмеце

У нас жа, ў Беларусі акупацыйны ўрад і прадажнае безадказнае чынавенства з усяе моцы душаць і нішчаць нашу прыгожую мову. Болей за тое, нават між патрыятычных беларусаў заняпад мовы настолькі вялікі, што рэдка хто зь іх можа правільна стылістычна і лексічна выказацца або напісаць па-беларуску.

«Дуброўскі настрой» адно з нешматлікіх выданняў, што пільна дбае пра мову.

А ў Кабульшчыні нават прыпынак падпісалі па-чужому.

## К НЯЧЫСТАЙ МАЦЯРЫ САЮЗНУЮ ДАМОВУ

Маскоўскае царства, якому ўсё мала зямлі і Зямля малая, не перастаючы войстрыць зубы на суседзяў. От ізноў зацьвенькалі пра некую «саюзную дамову» паміж Расеяй і Беларуссю. Гэта нішто іншае, як няспынная спроба вярнуць нас у расейскае каланіяльнае рабства.

Нагадаем, што хаўрус з Расеяй чатыры разы прыводзіў нашую Айчыну да гіганцкіх катастроф. Гэта ў 1812 годзе, калі пад час руска-французскай вайны загінула болей за мільён беларусаў, пад час вайны 1914 года, і пад час савецка-германскай вайны 1941-45 гадоў, калі мы страцілі да 40% насельніцтва і мелі зруйнаваную зямлю. Гэта чарнобыльская катастрофа, калі маскалі асадзілі ядзерныя хмары на Беларусь.

А міжваенныя 30я гады, калі камунарасейцы зьнішчылі ад 500.000 да мільёна чалавек.

Расейскія абдымкі вылазяць нашаму народу бокам.

Расеі выгадна, каб наш нароод не меў дэмакратыі і не карыстаўся ейнымі перавагамі. Не без ейнай падтрымкі цяперашні валацужны рэжым камянём вісіць на шыі нашага народу.

Усе кругом паразьбягаліся ад Расеі як чорт ад крыжа. Адзін беларускі рэжым ліжацца з крамлёўскімі вампірамі

А Расея, разжырэўшы на еўрапейскіх грашах за крадзеную ў сібірскіх народаў нафту, штодня робіцца ўсё нахабней Калі хто час ад часу слухае расейскую радыёпрапаганду, скіраваную на Захад, то не мог не зьвярнуць увагі, што тая нічым не розьніцца ад савецка-камуністычнай. Тое ж цьвеньканне на адрас амерыка нцаў, Еўропы. Тая ж незадаволёнасьць няправільным парадкам, што чыніцца не па-руску ў сьвеце.

Расея паправілася пасьля разва лу часткі сваёй імперыі і зараз, здэцца, гатовая змагацца за страчаныя тэрыторыі.

**Ніякіх «саюзных дамоў» з расейскім драпежнікам!**

«Кожны народ сабе сам пан» пісаў наш Янка Купала.

А Канстанцін Каліноўскі пра-.роча зазначаў «**Толькі тады будзеш вольны, народзе, калі над табой маскаля не будзе**».

Хутней бы гэта сталася!

Хоць, да слова, маскалі шчэ крэпка сядзяць у некаторых беларускіх галовах, якія вераць прапагандзе і думаюць, што Расея нам прыяцель.

Расея спраку-веку была каланіяльным драпежнікам.

**К нячыстай мацяры «саюзную дамову»!**

## ДА НОВЫХ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ВЯРШЫНЬ!

Што такое «сельскі зыход» у Дуброве мала хто ведае, мо гэтага не ведаюць дайжа ж настаўніцы.Але бачылі гэта ўсе. Так называецца масавае перасяленне вяскоўцаў у гарады. Зьяўленне добрай тэхнікі зрабіла лішнімі багата працоўных рук і людзі, пераважна моладзь, шукае лепшага жыцця ў горадзе.

Цяперака ўлада спрабуе павярнуць працэс назад. Вярнуць людзей ў калхозны канцлагер праз пастку «аграмястэчак». Марная справа. Сама сельская гаспадарка зьвязана дзяржавай пазаэканамічнымі парадкамі і рынкавыя адносіны тут і не тырчаць. Алкагалізацыя вёскі набыла памер эпідэміі. Калі паназіраць ля манапалькі, то для мужчын працоўнага веку найбольш неабходным прадуктам ёсьць марачнае пойла, якое мяняе назву хутней, чым яе запамятаеш.

От чаму ніхто сур"ёзны не хоча мець справу з беларускай сельскай гаспадаркай.

Пакуль дзяржава не адчэпіцца ад сяла, то заставацца яму старцом, якія б прыжожыя платы ні ставілі.

---

У Сьветлагорскім дзетародным доме раскідалася Цярэшчанка Таня
Віншуем бацьку Васіля, дзеда Аляксандра і бабу Галіну.
А сынку- моцы і шчасьця.

### IN MEMORIAM.

Яшчэ адным добрым дуброўцам паменела: пайшоў ад нас Мікалай Шчэрбін, па свойску званы дуброўцамі Коля Барушок.

Ён доўга працаваў бухгалтарам у калгасі то «Шлях да камунізму», то «Дуброва», то ў гэтай агры. От етая агра яго й даела.

Як чалавек ён быў таварыскі і з пачуццём гумару; іначай, як без лёгкай насьмешкі пра калхоз ён не гаварыў, бо, як добры сьпецыяліст, бачыў сапраўдныя посьпехі і дасягненні і не раз сваім розумам і пяром дапамагаў іх ствараць у справаздачах. Калі ж ён, урэшце, адмовіўся чырыць высмактаныя з пальца посьпехі, старшыня борздка прагнаў яго на пеньсію.

Гора не раз даганяла яго, найбольшае- сьмерць сына Ігара.

Нам будзе неставаць Колі Барушка, ветлага мужчыны з кавенькаю.

Пайшоў ад нас добры беларус
**ШЧЭРБІН**
**Мікалай Мікалаеў**
Хай яму мяккай будзе родная зямелька.

Пайшла ад нас добрая беларуска
**КАЛЯДА**
**Ганна Іванава.**
Хай ёй мяккай будзе зямелька.

Друкарня ім. І. Масьціцкага
100 ас.